


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 чэрвеня 2015 года №23 (1049)




**Як правільна перакласці назвы беларускіх вуліц на рускую мову?** старонка 2



**Вялікі Гасцінец і вуліцу Крынічную ў Маладзечне звяжа аб'язная дарога** старонка 3



**Студэнты стварылі "Нарачанскую рэспубліку"** старонка 5

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве свінакомплексаў

МАЛАДЗЕЧНА

1 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве двух свінагадоўчых комплексаў у Маладзечанскім раёне. Указ апублікаваны на Нацыянальным прававым партале. З тэксту ўказа вынікае, што комплексы будуць размешчаныя ў раёне вёсак Соўлава і Палачаны. Ва ўказе, у прыватнасці, гаворыцца аб ажыццяўленні адпаведных інвестыцыйных праектаў у 2015-2018 гадах. Раней мы паведамлялі аб грамадскім абмеркаванні магчымага будаўніцтва гэтых аб'ектаў.

### Фестываль-конкурс "Адна зямля" пройдзе 27 чэрвеня

АШМЯНЫ

У ім удзельнічаюць выканаўцы з Маладзечанскага, Валожынскага, Вілейскага, Смаргонскага, Астравецкага, Мядзельскага і Ашмянскага раёнаў. "РГ" выступае сузаснавальнікам гэтага конкурсу. У кожнай узроставай групе вызначаюцца тры прызавыя месцы, вызначаецца ўладальнік Гран-пры фестывалю і пераможца "Глядацкіх сімпатый".

### Вузлы паштовай сувязі аб'ядналі

МЯДЗЕЛ

Ад 1 чэрвеня ў сувязі з рэарганізацыяй Мядзельскі раённы вузел паштовай сувязі аб'ядналі з Вілейскім. У Мядзеле застаўся толькі ўчастак паштовай сувязі. Усе вытворчыя функцыі застануцца на ранейшым узроўні. Аб'яднанне датычыцца адміністрацыі вузлоў.

### Выдалі паштоўку з вывай Драздовіча

МАЛАДЗЕЧНА

Змешчаны здымак творцы 1926 года. Нагодай стаў выхад кнігі "Праз церні да зорак", прысвечанай асобе і творчасці Язэпа Драздовіча. Выдалі паштоўку ў Познані, якую славуты глыбачанін наведваў разам з навучэнцамі Навагрудскай беларускай гімназіі ў 1928 годзе.

**Аддзел інфармацыі.**



# На месцы расстрэлу яўрэяў пасадзілі алею

## Цяпер будуюць мемарыял



Фота Дзмітрыя СЯРЭДЗІЧА.

На ўзгорку былога стадыёна ў Валожыне, дзе ў часы Другой сусветнай расстралялі яўрэяў, рэстаўруюць скульптуру журботнай маці. Таксама робяць дарогу да яе.

ВАЛОЖЫН

**Адкрыць яго плануюць 22 чэрвеня.**

Летась на пачатку кастрычніка Валожынскі райвыканкам ініцыяваў пачатак раскопак на былым стадыёне горада, дзе, па словах сведак, у часы Другой сусветнай расстралялі 200 яўрэяў.

**Парэшткі расстраляных сапраўды знайшлі і перапахавалі.**

Два месяцы таму на месцы расстрэлу пачалі садзіць бярозы, клёны і елкі. За гэты час высадзілі каля 250 дрэў, распавёў загадчык аддзела архітэктуры і будаўніцтва Валожынскага райвыканкама **Дзмітры Сярэдзіч**.

Акрамя гэтага, цяпер рэстаўруюць скульптуру журботнай маці, якая стаіць на ўзгорку.

На месцы, дзе знайшлі парэшткі загінулых, плануюць паставіць мемарыяльную надмагільную пліту і пакласці вакол дарожкі.

Работы праводзяцца за кошт Валожынскага райвыканкама. З матэрыяламі дапамагае ТАА "Трайпл".

**На гэтым месцы збіраліся будаваць дамы**

Да раскопак на стадыёне планавалі пабудаваць жылыя дамы.

Гэта ўзрушыла мясцовых актывістаў, якія сцвярджалі, што тут некалі расстралялі яўрэяў.

"Рэгіянальная газета" публікавала архіўныя матэрыялы з пасляваенных допытаў, размаўляла з жывымі сведкамі тых падзей.

Серыя гэтых матэрыялаў публікавалася ў газеце ў 2014 годзе. Іх можна прачытаць на сайце rh.by.

**Больш фота з месца, дзе цяпер будуюць мемарыял, таксама глядзіце на сайце Rh.by**

**Настасся РОЎДА.**

МОВА

# Лявон Цімохін: "Што за бязглуздзіца – перакладаць назвы вуліц"

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці трэба перакладаць на рускую мову беларускія назвы вуліц? Транслітарацыя – прыдумка беларусаў ці сусветная практыка? Што кажа закон і што кажуць гісторыкі, філолагі і мовазнаўцы.**

### Як правільна пісаць назвы вуліц




Ніжэй прыводзім назвы некаторых маладзечанскіх вуліц з удакладненага спіса вулічна-дарожнай сеткі населеных пунктаў Маладзечанскага раёна.

Гэта дадатак да рашэння раённага Савета дэпутатаў ад 12 сакавіка 2009 года.

| Назва вуліцы | Перадача на рускую мову | Назва, якая выкарыстоўвалася раней пры перакладзе на рускую мову (цяпер не выкарыстоўваецца) |
|---|---|---|
| Будаўнікоў | Будавников | Строителей |
| Бэзавая | Бэзавая | Сиреневая |
| Жніввеньская | Жнивеньская | Августовская |
| Маладачанская | Молодочанская | Молодечненская |
| Паўночная | Полночная | Северная |
| Першамайская | Першемайская | Первомайская |
| Прамысловая | Промысловая | Промышленная |
| Усходняя | Усходняя | Восточная |
| Чыгуначная | Чигуночная | Железнодорожная |
| 17 Верасня | 17 Верасня | 17 Сентября |
| 8 Сакавіка | 8 Сакавика | 8 Марта |
| **Завулак** | | |
| Кастрычніцкі | Костричницкий | Октябрьский |
| Лазневы | Лазневый | Банный |
| Паўднёвы | Полдневый | Южный |

Як толькі ў інтэрнэце з'яўляецца новы артыкул на старую тэму назваў беларускіх вуліц, адразу сыплюцца спрэчныя каментары.

Як правільна па-руску пісаць вуліцы Будаўнікоў, Бэзавую, Жнівеньскую, Кастрычніцкую? Так і пісаць: "Будавников", "Бэзавая", "Жнивеньская", "Костричницкая". Пытанне вырашанае законам, аднак шум вакол яго не сціхае.

> У Законе Рэспублікі Беларусь "Аб назвах геаграфічных аб'ектаў" у частцы першай артыкула 17 напісана: "У Рэспубліцы Беларусь найменні геаграфічным аб'ектам прысвойваюцца на беларускай мове, з якога спосабам транслітарацыі передаюцца на рускую мову. Найменне геаграфічнага аб'екта падлягае дзяржаўнаму ўліку на беларускай і рускай мовах".

Аднак некаторыя актыўныя карыстальнікі сеціва незадаволеныя транслітарацыяй:

"З беларускай мовы на рускую не ўмееце перакладаць? Калі б я ў свой час пераклала на ўроку вуліцу "Будаўнікоў" як "Будавников", а не "Строителей", ды мяне б высмеялі! Як хочуць, так і пішуць. Але правілы беларускай мовы ніхто не адмяняў! І такіх слоў, як "будавнік" або "чигун", па-першае, ніколі не было, а, па-другое, яны маюць іншае значэнне".

## "Як настаўнік я паставіў бы адзінкі"

Пабачыўшы такога кшталту шэраг каментароў у інтэрнэце, чытач "Рэгіянальнай газеты", гісторык і паэт **Лявон Цімохін** звярнуўся ў рэдакцыю з просьбай патлумачыць, што транслітарацыя і пераклад – паняцці розныя. І нічога агульнага не маюць.

– Як настаўнік я вельмі многім бы паставіў нават не двойкі, а адзінкі. Людзі блытаюць транслітарацыю з перакладам. Назвы вуліц у нас – эксклюзіўныя. Будзеце з Іспаніі слаць ліст у Маладзечна камусьці з вуліцы Вялікі Гасцінец, можаце нават горад не пазначаць. Таму што дзе яшчэ такая вуліца ёсць? Назва ж адзінкавая. Ніхто не стане перакладаць на нямецкую мову вуліцу Кастрычніцкую як "Oktober Strasse". Не варта яе перакладаць і як "Октябрьская". Трэба паважаць мову кожнага народа, – мяркуе Лявон Цімохін.

Ён прыводзіць прыклад сімфанічнага аркестра, дзе важная роля кожнага інструмента. Забрацъ адзін – і аркестр ужо не аркестр. Мовы павінны суіснаваць гэтак жа. Нельга выкідаць нейкія з іх.

– Перакладаць "Старое Места" як "Старый город"? Ну, няможна так рабіць з геаграфічнымі гістарычнымі назвамі. Вялікая бяда людзей у тым, што яны не ведаюць замежных моў. Калі б яшчэ трохі ведалі, то ў іх не паўставала б такіх пытанняў. Сутнасць і соль тапанімікі ў тым, што гэта частка гісторыі, якая не знікае і якую мы павінны захаваць, – упэўнены гісторык.

## "Будавников" – гэта абсурд"

Такой пазіцыі ў пытанні беларускай тапанімікі прытрымліваецца наш зямляк, беларускі паэт, перакладчык і педагог, кандыдат філалагічных навук **Мікола Шабовіч**.

На яго думку, варта перакладаць на рускую мову ўсе назвы вуліц, якія толькі магчыма.

– Я за тое, каб "Будаўнікоў" была "Строителей" і Строителей" была "Будаўнікоў". Каб "Бэзавую" называлі "Сиреневой" і наадварот. Я за тое, каб усё было натуральна, каб мы не пачалі спалучаць непалучальнае. Не трэба прыдумляць непатрэбныя наватворы. Гэта абсурдна, з нас пачне смяяцца ўвесь свет.

У якасці прыкладу мовазнаўца прыводзіць назву "Старажытны квас". Калі карыстацца транслітарацыяй, то будзе "Старожитный квас". Калі перакладам – "Древний квас". Апошні варыянт Міколу Шабовічу падаецца лепшым.

## Колькі лінгвістаў – столькі і меркаванняў

Пытанне напісання геаграфічных назваў настолькі спрэчнае, што на яго конт кожны лінгвіст мае сваё меркаванне. Пра гэта гаворыць старшы выкладчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта **Аксана Семянькевіч**.

– Транслітарацыя – сусветная практыка. Так перадаваць назвы правільна і гэта прынята, таму я асабіста за транслітарацыю. Якія аргументы на карысць перакладу? Асноўны – гэта генетычная блізкасць рускай і беларускай моў. Некаторыя лінгвісты настойваюць на тым, што калі людзі разумеюць, то трэба перакладаць. Але тут наватне тое, што правільна ці не. Тут пытанне лінгвістычнага густу. І тое, што ў грамадстве гэтае пытанне выклікала такі рэзананс – нармальна, бо гэта сацыяльная з'ява.

Галоўнае ж тут, на думку мовазнаўцы, тое, што людзі неабыякавыя. Калі яны пішуць, каментуюць, абураюцца, пагаджаюцца ці не пагаджаюцца, значыць, ім не ўсё роўна.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



Фота Наталлі ТУР.

ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

# Аліна Суравец пра "Рэгіянальную газету"

**Пра "Рэгіянальную газету" гаворыць намесніца старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

– "РГ" мне вельмі блізкая па духу. Яна ахоплівае маю малую радзіму – Ашмяншчыну і Смаргоншчыну. Я адтуль паходжу. Газета рэгіянальная, не зацыкленая на нейкім адным раёне.

"РГ" – цалкам беларускамоўнае выданне, за што рэспект і павага. Сёння трэба мець шмат прынцыповасць, мужнасць і вялікую адказнасць, каб прытрымлівацца такой пазіцыі. І гэта – велізарны плюс.

Мне падаецца, што газета блізкая да людзей, адметная сваёй душэўнасцю. Ваша мова мяккая, але ёй вы распавядаеце і пра праблемы, і пра крымінальныя навіны. Рэчы, якія можна было б рэзка падаваць, вы не выпінаеце, не высоўваеце, а падыходзіце па-чалавечы. Вы гэта ўмееце.

У апошнія гады газета стала больш аператыўнай і змястоўнай. Яна пашырае сваю аўдыторыю, і гэта не значыць, што менавіта ў колькасным плане. У яе ўсё больш сталых, больш разумных чытачоў.

Мне падабаецца, што ў газеты цяпер малады калектыў. З новымі тварамі ў газеце з'явілася больш мабільнасці, крышачку імпрэсіі. Мне гэта сімпатычна. Я рада, што газета змагла без стрэсаў перайсці з больш памяркоўнага ў больш маладзевы, больш актыўны калектыў. Выданне толькі выйграла ад гэтага і стала адметным.

Што тычыцца сайта, то наперадзе ў вас яшчэ шмат працы. Аднак ваша жаданне ісці ў нагу з часам, рабіць апытанні на злобу дня, размяшчаць больш цікавай, карыснай інфармацыі, не словаблудзіць, а ясна пісаць пра падзеі, якія адбываюцца ў вашым полі зроку. Прычым з выкарыстаннем мультымедыя. За гэтым будучыня і гэта прыцягне ўнікальных чытачоў.

**Настасся РОЎДА.**

ЭКАЛОГІЯ

# Парушальніка ў лясах ловяць фотапасткі

ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

Вілейскі доследны лясгас набыў пяць партатыўных відэакамер (фотапастак). Прызначаныя яны для барацьбы з тымі, хто парушае правілы наведвання і смеціць у лесе, расказала намесніца дырэктара па ідэалагічнай рабоце лясгаса **Таццяна Анішчык**.

Камеры абсталяваныя датчыкамі руху і інфрачырвонай падсветкай – могуць здымаць нават у цёмны час сутак. Магчымасці камер дазваляюць разгледзець аўтамабільныя нумары і твары людзей. На аснове запісаў можна скласці пратаколы за адміністрацыйныя парушэнні.

Фотапасткі ўстанавілі ў Вілейскім доследнавытворчым лясніцтве, Куранецкім, Вязынскім, Прыгарадным і Старынкаўскім лясніцтвах. Іх будуць перыядычна перамяшчаць у іншыя месцы – туды, дзе з большай верагоднасцю могуць з'явіцца звалкі смецця.

У лясгасе плануюць набыць яшчэ некалькіх камер.

Раней такія фотапасткі ўстанавілі ў Валожынскім лясгасе. Міністэрства лясной гаспадаркі паведамляла, што з іх дапамогай удалося пакараць чатырох грамадзян, якія вырашылі, што лес – месца для звалкі.

Такі досвед падтрымання парадку ў лясах пераняли ў фінскіх калег.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота Тамары ГНОЙКАЙ.

ТРАНСПАРТ

# Вялікі Гасцінец і вуліцу Крынічную звяжа аб'язная дарога

МАЛАДЗЕЧНА

**У перспектыве гэтую дарогу пракладуць праз вуліцу Будаўнікоў да трасы Маладзечна-Смаргонь.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Аляксей Нагіх.

– Работы ўжо вядуцца. Гэта дарога звяжа трасу Р-106 Маладзечна-Смаргонь з вуліцай Крынічнай.

Кошт дарогі цалкам складзе прыкладна 25 мільярдаў рублёў. Сюды ўвойдуць і асфальтаванае пакрыццё, і пешаходныя дарожкі, і іншыя камунікацыі, абавязковыя для дарогі.

Вядома, што толькі сродкамі раённага бюджэту не абыдзецца, таму для будаўніцтва дарогі частку грошай выдзелілі з абласнога бюджэту.

**Сёлета плануецца завяршыць толькі частку дарогі працягласцю прыкладна кіламетр. На гэта трэба 10 мільярдаў рублёў.**

– Машыны па гэтай дарозе, – кажа Аляксей Мікалаевіч, – пойдуць ужо ў снежні.

## Асфальтаваных дарог не чакайце

Яшчэ будуецца дарогі ў раёне індывідуальнай забудовы.

**Будуецца дарога паміж Рагазамі і вуліцай Міру, дарога ў Чысці і Асаўцы. Распрацоўваецца і збіраецца дакументацыя на дарогу ў вёсцы Цюрлі. Вуліца звяжа завулак Палачанскі, вуліцу Вольную, Лугавую, Палачанскую.**

– Але хочацца падкрэсціць, – кажа Аляксей Нагіх, – што гаворка ідзе толькі пра пясчана-гравійную сумесь. Асфальтавацца гэтыя дарогі не будуць.

Вялікую размову з Аляксеем Нагіх пра тое, што пабудуюць у Маладзечне ў бліжэйшы час, чытайце ў наступным нумары.

**Наталля ТУР.**

ЛІЧБА НУМАРА

**10 мільярдаў рублёў**

будзе каштаваць будаўніцтва аднаго кіламетра аб'язной дарогі Маладзечна-Смаргонь – вуліца Крынічная

По словах дырэктара ўпраўлення капітальнага будаўніцтва горада Маладзечна Аляксея Нагіх

Інфаграфіка Наталлі ТУР.

| Курсы валют НБ РБ | 28.05 | 4.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 530,00 | **14 912,00** |
| Еўра | 15 860,00 | **16 324,00** |
| Злоты | 3 828,92 | **3 962,01** |
| Расійскі рубель | 289,00 | **279,12** |
| Грыўня | 674,25 | **705,89** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 3.06** | | |
| Еўра | 15750/15980 | **14850/15050** |
| Долар ЗША | 14440/14640 | **16320/16800** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.05 | 3.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 80000 | **75000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36800 | **36900** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **42800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **98000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 10900 | **9900** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 13900 | **11900** |
| Морква, 1 кг | 18500 | **14900** |
| Буракі, 1 кг (свежыя) | 6500 | **16900** |
| Радыска, 1 кг | 14900 | **12500** |
| Лімоны, 1 кг | 34900 | **46900** |
| Апельсіны, 1 кг | 17900 | **17900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26500 | **29500** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 33000 | **35000** |
| Ківі, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Нектарын, 1 кг | 49000 | **39000** |
| Абрыкос, 1 кг | 49000 | **39900** |
| Клубніцы, 1 кг | 65000 | **55000** |
| Чарэшні, 1 кг | - | **60000** |
| Памідоры, 1 кг | 26900 | **24900** |
| Агуркі, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Перац, 1 кг | 49500 | **59900** |
| Вінаград, 1 кг | 34900 | **44900** |
| Бананы, 1 кг | 18500 | **19900** |
| Яблыкі, 1 кг | 13900 | **13900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 22500 | **29900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 13900 | **14000** |
| Сала, 1 кг | 65000 | **65000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **-** |

# 15 чалавек загінулі сёлета праз алкаголь

**По дадзеных сацыялагічных даследаванняў, “бытавымі п’яніцамі” можна назваць 15-20% насельніцтва Беларусі**

МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета алкагольнае атручэнне забрала жыцці шасці чалавек. Яшчэ восем нецвярозых скончылі жыццё самагубствам. Праз алкаголь здарылася і адно забойства. Што характэрна, адзначаюць у РАУС, усе загінулыя людзі былі працоўнага ўзросту. Партрэт алкаголіка складзены па інфармацыі Маладзечанскага райаддзела ўнутраных спраў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Партрэт алкаголіка

- **Мужчына ад 30 да 49 гадоў**
- **Працуе ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве ці транспарце**
- **Мае сярэднюю ці сярэднюю спецыяльную адукацыю**
- **Жанаты, у яго сям’і 1-2 дзяцей да 16 год**
- **Аддае перавагу піву, віну і гарэлцы**
- **Ужывае спіртныя напоі часцей дома, можа выпіваць і на вуліцы, і ў барах**
- **Не задаволены ўмовамі для вольнага часу**



- **Мае грошы на спіртное**
- **Шмат курыць**

**Погляды алкаголіка:**

- **Лічыць, што ў краіне “не ўсё так блага і можна жыць”**
- **Не верыць у Бога**

Малюнак cs4.pikabu.ru.

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Мак і каноплі знішчайце разам з пустазеллем

МАЛАДЗЕЧНА

**1 чэрвеня ў Маладзечанскім раёне пачалася спецыяльная праграма “Мак”.**

У яе межах правядуць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на знішчэнне пасеваў маку і канапель з прыцягненнем вінаватых да адказнасці.

Гэта асноўныя віды наркотыкаў на Маладзечаншчыне. За незаконны пасеў, вырошчванне маку і канапель без мэты продажу, прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць. Памер штрафу можа дасягаць 20 базавых велічынь.

Згодна з Крымінальным кодэксам Беларусі, “Пасеў і вырошчванне з мэтай збыту альбо выраб наркатычных сродкаў, альбо культываванне з той жа мэтай сартоў канапель, маку ці іншых раслін, што ўтрымліваюць наркатычныя рэчывы”, цягне за сабой крымінальную адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі да трох год. Сам жа продаж, збыт дадзенага віду наркатычных сродкаў, гэта значыць, канапель, галовак маку, з’яўляецца цяжкім злачынствам і прадугледжвае крымінальную адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі ад пяці да васьмі гадоў.

Не спрабуйце камусьці прадаць мак, каноплі і гэтак далей, вырашчаныя на сваіх зямельных участках.

Каб пазбегнуць дадзеных непрыемнасцяў, просьба не высяваць на сваіх прысядзібных участках, агародах мак і каноплі, а калі яны выраслі самі, трэба іх знішчаць разам з іншым пустазеллем. Толькі агульнымі намаганнямі мы зможам супрацьстаяць такому няўхільнаму злу, як наркаманія, якая з’яўляецца цяжкай хранічнай хваробай.

Калі вам штосьці вядома пра факты збыту, захоўвання, выкарыстання, вырошчвання наркотыкаў, тэлефануйце ў аддзяленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС па тэлефоне: (8 0176) **77-19-11**, (8 029) **773-39-15**, (8-044) **786-31-35**. Ананімнасць гарантуецца.

**Дзмітры СУХОЦКІ, начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Пройдзе спецаперацыя “Бяспека”

МАЛАДЗЕЧНА

**Асноўны этап адбудзецца 2 - 6 чэрвеня.**

Ладзіць яе Маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце. Аперацыя накіраваная на прафілактыку траўматызму на чыгунцы.

Просім пасажыраў трымацца мер бяспекі:

- не пераходзьце чыгунку па не прызначаных для гэтага месцах ці перад цягніком;
- не парушайце правілы праезду праз чыгуначныя пераезды.

Правапарушэнні цягнуць адказнасць паводле заканадаўства. Цаніце сваё жыццё і здароўе!

**Таццяна СУБАЧ, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**



СЛУЖБА 101

## Ад удару маланкі цалкам згарэў дом

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося непадалёк ад вёскі Касцюкі Ракаўскага сельсавета падчас моцнай навальніцы.**

З садовага таварыства “Абутнік” паступіла паведамленне, што гарыць драўляны дачны дом.

Калі выратавальнікі справіліся з агнём, згарэў дах і дом знутры выгараў цалкам.

Гаспадыня дома, 81-гадовая пенсіянерка, пачула пах дыму і самастойна выйшла з дому. Яна не пацярпела.

– Прычынай пажару стала маланка, якая ўдарыла акурат у дом, – паспавяла “РГ” інспектар нагляду і прафілактыкі Валожынскага РАНС **Алена Процкіў.**

**Наталля ТУР.**

## На пажары загінуў пажылы мужчына

ВІЛЕЙКА

**Здарэнне адбылося 26 мая ў вёсцы Краўчанкі Хаценчыцкага сельсавета.**

Убачыў пажар і патэлефанаваў выратавальнікам сусед, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Калі прыехалі выратавальнікі, дом гарэў. Яны знайшлі там цела 74-гадовага гаспадара.

Агонь знішчыў дах, дом выгараў знутры. Аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка не было.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫШУК

## Шукаюць віляйчаніна, які паехаў на заробкі

ВІЛЕЙКА

**У вышуку Дзмітры Юр’евіч Сідзякін.**



Яму – 37 год, ураджэнец горада Кандалакша Мурманскай вобласці, зарэгістраваны ў Вілейцы.

У пачатку ліпеня 2012 года паехаў на заробкі ў Маскву. Канкрэтнае месцазнаходжанне яго не ўстаноўленае. Перыядычна мужчына выходзіць на сувязь па тэлефоне са сваякамі. Супрацоўнікам міліцыі пра сваё месцазнаходжанне паведамляць катэгарычна адмаўляецца.

Просім грамадзян, якія што-небудзь ведаюць пра сапраўднае месцазнаходжанне Дзмітрыя Сідзякіна, паведаміць па нумарах: 8029 **5076686** або **102**.

**Паводле аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Пасля візіту гасцей зніклі зберажэнні

ВІЛЕЙКА

**У міліцыю 23 мая звярнулася 73-гадовая жыхарка вёскі Кухты Вязынскага сельсавета. У яе з дому знікла 1250 долараў ЗША.**

У крадзяжы падазраюць дзвюх жанчын. Яны зайшлі да гаспадыні ўдзень. Адна адцягнула ўвагу пенсіянеркі, а другая прайшла ў сярэдзіну дома. Неўзабаве гаспадыня заўважыла, што зніклі грошы.

Узбудзілі крымінальную справу, жанчын шукаюць, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. А вяскоўцам параіў быць пільнымі з нязванымі гасцямі.

**Аддзел інфармацыі.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Студэнты прыдумалі "Нарачанскую Рэспубліку"

МЯДЗЕЛ

**Расчараваўшыся ўмовамі для актыўнага адпачынку на Нарачы, студэнты беларускіх ВНУ стварылі праект "Нарачанскай Рэспублікі".**



Фота забяспечана Аленай ГІЛЕЎСКАЙ.

Стваральнікі праекта "Нарачанскай рэспублікі".

Размясцілася яна паміж азёрамі Нарач і Белае. Прыдумалі для рэспублікі лагатып, герб і сцяг. Слоган выбралі такі: "Нарачанская Рэспубліка – стань грамадзянінам краіны забаў". На ўездзе запланавалі ўсталяваць своеасаблівы пункт пропуску і ставіць уязныя штампы. Не, не ў пашпарт – на адмысловы бланк.

Працавалі над задумай праектная студэнцкая каманда "5+1". У яе складзе **Laліта Асеева**, **Дар'я Буртасава**, **Алена Гілеўская**, **Крысціна Жыркевіч**, **Улад Клімавец**, **Данута Лабачэня**. У камандзе – студэнты БДУ, БНТУ, Акадэміі кіравання.

**На конкурсе моладзевых праектаў брэндынгу тэрыторый OPEN your IDEA у Мінску іх праект увайшоў у лік пяці пераможцаў.**

## Нарачанскі край абралі невыпадкова

Тлумачыць адна са стваральніц праекта **Алена Гілеўская**:

– Нам вельмі блізкая Нарач цёплымі ўспамінамі і асаблівай атмасферай. Практычна ўсё дзяцінства кожнае лета ездзілі сюды з сям'ёй адпачываць. Умовы пражывання і забавы былі мінімальныя, але ўражвала прыгажосць і маляўнічасць. Летась паехалі адпачываць з сябрамі і вельмі засмуціліся, не засталіся там і на дзень. Падабаецца актыўны адпачынак, але не змаглі знайсці належных умоў для арганізацыі вольнага часу. Вырашылі прааналізаваць водгукі адпачывальнікаў і выявілі аналагічныя слабыя бакі курорта.

Лічаць студэнты, што Нарач валодае вялікім турыстычным патэнцыялам. Аднак ёсць шэраг фактараў, якія перашкаджаюць яго развіццю. Па меркаванні аўтараў праекта, адзін з асноўных недахопаў – неразвітая інфраструктура, адсутнасць аб'ектаў для адпачынку – у прыватнасці, для актыўных маладых людзей. У канкурэнтаў гэта ўсё на больш высокім узроўні.

Таму захацелася стварыць комплекс, накіраваны як на аздараўленне грамадства, так і на ўсебаковае развіццё асобы.

**– Вырашылі распрацаваць не проста курорт, а адмысловую тэрыторыю са сваімі "правіламі", "канстытуцыяй", атмасферай. І зрабіць гэта ўнікальнай гандлёвай прапановай комплексу, – кажа Алена Гілеўская.**

## Хостэлы і шкляны куб

Тэрыторыя комплексу "Нарачанская Рэспубліка" падзеленая на часткі. Хостэлы, палатачны гарадок, спартыўныя пляцоўкі складаюць адну з чатырох яго частак.

– **Той жа палатачны гарадок і цяпер ёсць на турстаянках?**

– Так. Але мы вырашылі ўключыць яго і ў наш комплекс, каб задавальняць розныя патрэбы турыстаў. У нашым палатачным гарадку людзі не проста атрымліваюць асалоду ад прыроды, але і ўдзельнічаюць у спартыўных гульнях, розных мерапрыемствах і фестывалях.

Для аматараў актыўнага адпачынку задумалі стварыць мабільны скаладром, атракцыёны, праводзіць розныя забавы: катанне на санках і квадрацыклах, квэсты.

Найбольш арыгінальнай часткай праекта аўтары лічаць шкляны аб'ект у форме куба. Ён складаецца з чатырох частак: кінатэатра, кафэ-бара, інкубатара бізнесу і студыі-выставы.

– Усё гэта накіраванае на самаадукацыю, духоўнае і фізічнае развіццё, культурнае ўзбагачэнне. Мы верым у нашу ідэю і, вядома, хочам, каб яна ажыццявілася, – тлумачаць аўтары праекта.

## Больш беларускасці

Падчас прэзентацыі праекта ім параілі ўнесці ў свой комплекс больш беларускасці.

– Комплекс павінны дэманстраваць разнастайнасць беларускай культуры як для замежнікаў, так і для саміх беларусаў, – кажа Алена Гілеўская. – Бо, на самой справе, гэта адна з праблем беларускага грамадства – ухіленне ад сваёй культуры. Таму мы хочам унесці больш элементаў беларускасці. У рэстаране комплексу прадугледжаная беларуская кухня, інтэр'ер з выкарыстаннем беларускіх сімвалаў, персанал, які размаўляе на беларускай мове і, вядома, мерапрыемствы, накіраваныя на развіццё беларускай культуры.

Якраз у гэтыя дні (4-6 чэрвеня) праект удзельнічае ў фестывалі OPEN у Мінску. Працу студэнтаў прэзентуюць міжнароднаму журы.

Карту Нарачанскай рэспублікі глядзіце на сайце




Алесь ВЫСОЦКІ.

СВЯТЫ

## На Нарачы адкрылі курортны сезон з майстрамі і жанглёрамі

МЯДЗЕЛ

У курортным пасёлку Нарач (Купа) 31 мая прайшло свята, прысвечанае адкрыццю курортнага сезона.

Дэлегацыі здраўніц прэзентавалі свае ўстановы, а хто і частаваў гледачоў прысмакамі.

Былі канцэрты, выступленні жанглёраў і хадулістаў, выставы прадукцыі мясцовых прадпрыемстваў, майстар-класы ад народных майстроў. Працавалі турыстычныя і іншыя пляцоўкі. Можна было пакатацца на конях.

На свяце ўшанавалі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх былі жыхары курортнага пасёлка, у тым ліку аўтар "Рэгіянальнай газеты" **Міхаіл Чарняўскі.** А таксама ветэраны, якія адпачываюць у здраўніцах. Паміж іх была дэлегацыя ветэранаў з Расіі.

Таксама адзначылі лепшых вучняў Нарацкай сярэдняй школы №2.

Аддзел інфармацыі.

АДПАЧЫНАК

## Нарач – папулярнае месца для адпачынку з дзецьмі ў расіян

МЯДЗЕЛ

Партал Travel.ru вызначыў самыя папулярныя і эканамічныя замежныя турыстычныя напрамкі для летніх падарожжаў з дзецьмі. Рэйтынг заснаваны на дадзеных браніравання гатэляў гэтым летам турыстамі, якія вандруюць самастойна.

Самы эканамічны адпачынак расіян за мяжой гэтым летам чакае ў Беларусі. А найбольшай папулярнасцю ў іх для адпачынку з дзецьмі карыстаецца адпачынак у санаторыях на возеры Нарач і дзіцячым цэнтры "Зубраня" з наведваннем нацыянальных паркаў і запаведнікаў.

Паводле Travel.ru

ФІЗІЧНАЯ КУЛЬТУРА

## На роварах па Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Стартавалі 30 веласіпедыстаў з Цэнтральнай плошчы. Заехалі на вакзал, Старое Места, выехалі за горад. Агулам гэтая велавандроўка доўжылася каля дзвюх гадзін.

Адны прыязджалі з кампаніямі, іншыя – самі. Хтосьці ведаў пра "Крытычную масу", а хтосьці пачуў упершыню.

Удзельнікі "Крытычнай масы" ў 300 гарадах свету збіраюцца ў апошнюю пятніцу кожнага месяца і ладзяць сумесны праезд. У Маладзечне збор прайшоў упершыню, але раварысты плануюць выязджаць надалей штомесяц.

– Усе задаволеныя і чакаюць наступнай сустрэчы, – кажа ініцыятар далучэння Маладзечна да "Крытычнай масы" **Павал Сяргей**. – Са мной прыехалі сябры. Было шмат людзей, якіх часам бачу ў горадзе. На першы раз прыехалі пераважна хлопцы, але мы будзем працаваць над тым, каб падцягваліся і дзяўчаты.

Удзельнікі руху, што з'явіўся больш за 20 гадоў таму, пераследуюць розныя мэты. Ад прасоўвання экалагічнага віду транспарту, здаровага ладу жыцця, паляпшэння велаінфраструктуры горада да адмаўлення сістэмы каштоўнасцяў, дзе аўтамабіль і яго цана з'яўляюцца паказчыкам годнасці чалавека.

Настасся РОЎДА.

КОНКУРСЫ

## Мядзяльчанка перамагла ў конкурсе фатаграфіі

МЯДЗЕЛ

**Юлія Пацеюн** перамагла ў першым рэспубліканскім конкурсе дзіцячай фатаграфіі "Свет вакол нас". Праводзіў яго фотаклуб з Пастаў "Святласіла".

У конкурсе прынялі ўдзел больш за 170 дзяцей. Іх фатаграфіі мусілі паказаць дарослым свет вачыма падлеткаў.

Конкурс праводзіўся ў шасці намінацыях. У намінацыі Glamour life перамагла вучаніца гімназіі-інтэрната Мядзела Юлія Пацеюн. "РГ" пісала пра поспехі юнай мядзяльчанкі ў фатаграфаванні, артыкул можна знайсці на сайце rh.by.

Выстава фіналістаў конкурсу праходзіла ў бібліятэцы імя Пушкіна ў Мінску. На ёй паказалі і дзве працы Юлі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ПЕРАМОГІ

# Ад навагодняй мары да фотамадэлі свету

## Такі шлях прайшла выпускніца мядзельскай гімназіі

МЯДЗЕЛ

Гісторыя паспяховага ўдзелу ў міжнародным конкурсе талентаў і прыгажосці ў Турцыі для **Кацярыны Кавальскай** пачалася напярэдадні Новага года. Тады ў Беларусі дзіцячы фонд праводзіў дабрачынны марафон "Чароўны падарунак – дзецям". Дзеці пісалі пра сябе і свае мары, якія арганізатары з дапамогай мецэнатаў стараліся ажыццявіць.

Паўдзельнічала і Кацярына. Яна – дачка **Жанны Кавальскай**, гаспадыні дзіцячага дома сямейнага тыпу ў Занарачы на Мядзельшчыне. Там выхоўваюцца 11 дзяцей-сірот і дзяцей, які засталіся без апекі бацькоў.

Перад Новым годам Каця загадала паказаць свае таленты і ўбачыць мора.

І вось мары мноства дзяцей споўніліся, засталіся няздзейсненыя толькі дзве – Каці і Вані са Старых Дарог. А мары гэтых былі практычна аднолькавыя.

Тады сямейны сацыяльны цэнтр Centro-Life вырашыў паспрабаваць адправіць дзяцей на конкурс Little miss world & Little mister world-2015. Да акцыі далучыліся кіраўнікі прадпрыемстваў, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі дыпламатычных структур і многія іншыя. Да збору сродкаў на паездку падключыліся карыстальнікі сацыяльных сетак.

– Людзей дапамагала вельмі шмат. Мяне больш за ўсё здзівіла, колькі чалавек гатовыя дапамагаць зусім незнаёмым, – кажа Кацярына.

Да конкурсу выпускніцы гімназіі-інтэрната Мядзела дапамагла рыхтавацца каманда прафесіяналаў: педагогі па музыцы і дэфіле, харэограф, стыліст, дызайнер-мадэльер. Найбольш Каці запомніліся сустрэчы з дырэктарам Нацыянальнай лігі прыгажосці і моды Беларусі **Ганнай Гоманавай**.



Фота забяспечана Кацярынай КАВАЛЬСКАЙ.

**На фотасесіі ў Турцыі Кацярыне Кавальскай, выпускніцы гімназіі-інтэрната Мядзела, давялося ствараць розныя вобразы.**

### Стала "Фотамадэллю свету"

Конкурс праходзіў у горадзе Бодрум ад 6 да 18 мая. Праводзіўся ён у 23 раз. Удзельнічалі 33 прадстаўнікі з каля 20-ці краін.

Больш за ўсё Кацярыне запомнілася падрыхтоўка да конкурсу.

– Колькі сіл, цярпення было ўкладзена! Самае цяжкае, на мой погляд, гэта было вытрымаць маральна. Бліжэй да завяршэння конкурсу я ўжо вельмі сумавала па бацьках. Але ні хвіліны не сумнявалася, што пагадзілася на ўдзел.

У праграме быў конкурс талентаў і чатыры выхады – у народным, гістарычным, спартыўным і вячэрнім строях. А былі яшчэ доўгія трэніроўкі, фотасесіі. Таксама журы таемна назірала за паводзінамі дзяцей па-за конкурснымі выступленнямі – як паводзяць сябе на адпачынку. За гэта таксама налічвалі балы.

**У выніку Кацярына заваявала званне "Фотамадэль свету" ва ўзроставай катэгорыі 16-18 год.**

### Адмыслова выбрала беларускую песню

Мара Кацярыны здзейснілася – пабывала на моры і паказала таленты.

Яна некалькі год піша вершы. Перад гэтым удзельнічала ў Мінску ў конкурсе "Музыка дзіцячай душы".

На вершы Кацярыны і песні напісаныя. Меркавалася, што ў Турцыі будзе спяваць сваю песню. Але яна была не гатовая. Таму спявала песню **Іны Афанасьевай** "Сумны саксафон".

– Адмыслова выбрала беларускую песню, каб дзеці з іншых краін паслухалі нашу родную мову.

– Што вам даў удзел у конкурсе?

– Я паверыла ў свае сілы. Зразумела, што ўсякім чалавеку ёсць нешта асаблівае. Што абавязкова трэба развіваць творча, шукаць нейкія новыя конкурсы і пакараць новыя вяршыні.

У суботу для Каці прагучаў апошні званок. І ад яе, чыя мара здзейснілася, натуральна будзе пачуць пажаданні для ўсіх выпускнікоў:

**– Хачу ўсім сказаць, што трэба абавязкова мець мару і імкнуцца да яе. Усё роўна, дойдзеш ты да фіналу ці не. Галоўнае, што, пераадольваючы ўсе цяжкасці і няўдачы на шляху, мы становімся лепшымі.**



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail:
alvy@tut.by

ПАДЗЕІ

# На адкрыцці фестывалю "Маладзечна-2015" раскупілі ўсе 2600 білетаў

МАЛАДЗЕЧНА

5 чэрвеня – адкрыццё XV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2015". На адкрыццё білетаў не было ўжо ў аўторак. Зала на 2600 чалавек запоўненая цалкам, а вось на іншыя мерапрыемствы яшчэ можна трапіць.

**5 чэрвеня.** Канцэрт народнай музыкі "Мелодыі роднай зямлі".

Ён пачнецца ў амфітэатры ў пятніцу а шостай гадзіне вечара. У продажы яшчэ ёсць білеты і па 55, і па 65, і па 75 тысяч.

**6 чэрвеня.** Канцэрт "Вялікія песні вялікага народа" і 3 тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

Канцэрт у амфітэатры пачнецца а 21 гадзіне. Білеты ў наяўнасці па 75, 85 і 95 тысяч.

**7 чэрвеня.** Юбілейны канцэрт Алега Молчана "Песня мая".

На гэты канцэрт кампазітара аўтара вядомых твораў ансамбля "Песняры", такіх як "Малітва", "Стася", "Гуляй, казак!", білеты каштуюць 75, 85 і 95 тысяч. Яны ёсць у продажы.

**7 чэрвеня.** Канцэрт з удзелам пераможцаў праекта "Зорны дыліжанс".

У канцэрце, абяцаюць арганізатары, возьмуць удзел Дзмітры Калдун, Алёна Ланская, гурт IOWA і іншыя зоркі беларускай эстрады.

Білеты, якія каштуюць 115 тысяч, пакуль ёсць у наяўнасці, але іх засталося ўсяго чатыры.

Білетаў па 145 тысяч засталося больш. Але не так шмат, каб цягнуць набыццё да нядзелі. Тое ж датычыцца і білетаў па 165 тысяч.

**Аддзел інфармацыі.**

ТРАДЫЦЫІ

# Сёмуху адзначылі абрадамі і прыпеўкамі

ВІЛЕЙКА

У аграгарадку Нароча 31 мая, на Сёмуху, прайшло раённае свята "Збірайся, народ, у трэцкі карагод!".

Пачалося ўсё з хроснага ходу і святочнага малебну.

Для ўрачыстага адкрыцця на сцэнічную пляцоўку паднялася старшыня раённага Савета дэпутатаў **Наталля Радзевіч**. Павіншаваў усіх прысутных старшыня Нарочкага сельсавета **Анатоль Бяганскі**.

Традыцыйны блок адкрылі ўдзельнікі ўзорнага дзіцячага драматычнага тэатра "Ялінка" і мастацкай самадзейнасці Нарочкага СДК. Паказалі яны ўрыўкі з п'есы Віталя Вольскага "Несцерка", персанажы з якой дзейнічалі на працягу ўсяго свята.

Потым паказалі абрады "Ваджэнне Куста" і "Кумленне". Суправаджалася ўсё традыцыйнымі песнямі.

Свята працягнуў раённы конкурс выканаўцаў прыпевак "Гарманіста пакахала і прыпеўкі заспявала!".

Цікавая была канцэртная праграма. Падчас яе падвялі вынікі раённага агляду-конкурсу аматарскай мастацкай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Адзначылі пераможцаў раённага конкурсу выканаўцаў прыпевак.

**Андрэй БАЎТРУКЕВІЧ,**
**метадыст раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы.**

КОНКУРС

# Чытайце па-беларуску – атрымлівайце падарункі

МАЛАДЗЕЧНА.

Бавіце час з карысцю, атрымлівайце новыя веды, а з імі і падарункі. Хто найбольш прачытае, таму найбольшы падарунак. Пераможцаў у гэтым конкурсе апантаных кнігай будзе тры.

Ладзяць мерапрыемства Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" і "Рэгіянальная газета".

Мы запрашаем вас цягам трох месяцаў, ад 15 чэрвеня да 15 верасня, завітваць у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Максіма Багдановіча і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы.

Няма ніякай розніцы, колькі вам гадоў, вучыцеся вы ці працуеце. Калі ў вас яшчэ няма абанемента, то самы час яго завесці.

Пераможцаў арганізатары конкурсу вызначаць у верасні. Бібліятэчныя фармуляры пакажуць, хто, колькі кніг і за які час прачытаў.

Лепшых кнігалюбаў чакаюць падарункі.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Не мямліце, не бойцеся, і экзамен пройдзе на "10"

МАЛАДЗЕЧНА

**Дрыжаць калені, пот ліецца ручаём, губляецца голас – гэта першыя сімптомы, што пачынаюцца экзамены.**

Як пабароць экзаменацыйную трывожнасць і здаць на выдатна, расказвае псіхолаг маладзечанскіх электрасетак **Таццяна Жданава**. Яна ўпэўненая, што можна змяніць адносіны да экзаменаў і стаць гаспадаром сітуацыі, калі ведаць сябе і правільна арганізаваць час.




Поспеху ў экзаменах і тэставанні жадае зорка серыяла "Звышнатуральнае" Джэйсан Эклс.

## Як псіхалагічна падрыхтавацца да экзамену

1. Пачынайце рыхтавацца раней.

2. Прапрацуйце пытанні з алоўкам ці маркерам. Лёгкія або якія ведаеце падкрэсліце, напрыклад, чырвоным, адносна лёгкія – сінім, цяжкія або адказаў на якія не ведаеце – зялёным. Так вы ацэніце свой узровень ведаў і час, які спатрэбіцца на падрыхтоўку.

3. Цяжка сабрацца з думкамі, пачынайце з лёгкага або забытага матэрыялу, пасля пераходзьце да цяжкага. Складаныя тэмы рыхтуйце, пакуль не стаміліся, якія добра ведаеце – калі сілы на зыходзе.

– Не забывайцеся на біялагічныя асаблівасці арганізма – "сава" вы ці "жаваранак", – расказвае Таццяна Жданава. – У адпаведнасці з гэтым будуйце дзень.

Калі, напрыклад, вам трэба вывучыць 120 білетаў, у першыя два дні трэба вывучыць 70% усяго аб'ёму, у трэці – астатняе, чацверты дзень – для паўтарэння. Яго лепш пачынаць з таго, што добра ведаеце.

– Не паўтарайце механічна, удумвайцеся ў сэнс інфармацыі, – заўважае спецыяліст. – Калі не паўтарыць інфармацыю, яна паступова забываецца ў першыя дзесяць гадзін на 20-30%. Каб гэтага не здаралася, трэба прачытаць тэкст, паўтарыць яго два разы, праз восем-дзесяць гадзін – чатыры разы, праз суткі – адзін.

4. Размяркуйце рытм дня. Не адмаўляйце ў прывычных занятках: размовах па тэлефоне, сустрэчах з сябрамі. Выдзеліце пэўны час на падрыхтоўку. Своечасова кладзіцеся спаць.

– Апошнія 12 гадзін перад экзаменам адпачніце, – раіць псіхолаг.

5. Рабіце перапынкі.

– Для тых, хто хутка запамінае, яны павінны быць кожныя 45 хвілін, запамінаеце марудней, праз гадзіну-паўтары.

6. Можаце выкарыстоўваць танізуючыя сродкі, травяныя чаі. Хімічныя заспакаяльныя лепш не ўжываць. Каву піце толькі раніцай. Яна ўзмацняе стан трывожнасці.

7. Добра харчуйцеся. Сярод страў павінны быць мёд, грэцкія арэхі, малочныя прадукты, рыба, мяса, садавіна і гародніна. Не забывайце антыстрэсавую садавіну – бананы.

8. Гуляйце на свежым паветры.

9. Старайцеся ў нецікавым матэрыяле знайсці цікавае.

## Добра вучыце сярэдзіну тэксту – яна хутчэй забываецца

Ёсць псіхалагічныя заканамернасці пры падрыхтоўцы да экзамену, ведаючы іх, можна паспяхова падрыхтавацца.

– Сярод іх "фактар краю". Паводле яго, лепш запамінаецца тое, што напісана ў пачатку і канцы. Сярэдзіна, як правіла, вылятае з галавы. Таму звярніце на яе асаблівую ўвагу, – расказвае спецыяліст.

Нярэдка, калі чытаеш пэўны тэкст, здаецца, дзесьці яго чытаў або вучыў. Значыць, не трэба траціць час на паўтарэнне. Але гэта не так, лепш паўтарыць.

– Веданне асаблівасцяў запамінання дапамагае лепш падрыхтавацца, – адзначае Таццяна Жданава. – Запамінаеце зрокава – выкарыстоўвайце карты, схемы, карысна пісаць шпаргалкі. Запамінаеце на слых – слухайце лекцыі, прагаворвайце адказы ўслых. У людзей, у якіх пераважаюць адчуванні, – інфармацыя адкладваецца праз асацыяцыі.

## Што дапаможа здаць экзамен паспяхова

Па дарозе на экзамен можаце пагартаць канспект. Гэта дае адчуванне ўпэўненасці.

– Не апранайце яркага адзення, гэта прыцягвае дадатковую ўвагу, – раіць псіхолаг. – Можна прыйсці ў шчаслівым адзенні, у якім перажывалі моманты поспеху.

Не прыходзьце на іспыт задоўга да яго. Лепш за паўгадзіны – гэта дапаможа супакоіцца.

– Старайцеся выглядаць упэўнена, – адзначае псіхолаг. – Гэта станоўча дзейнічае на экзаменатара. Не мямліце – гэта раздражняе. Старайцеся адказваць сваімі словамі, а не чытаць па паперцы.

Не бойцеся дадатковых пытанняў, яны дапамагаюць выявіць веды.

Не адказвайце пасля тых, хто добра вучыцца і валодае аратарскімі здольнасцямі. Ваш адказ можа паказацца слабым.

Запісала Галіна СІНІЦА.




САКРЭТЫ ЖЫЦЦЁВАГА ПОСПЕХУ

# Як усё паспець?

*"Неразумна складаць планы на ўсё жыццё, калі вы не можаце быць гаспадаром нават заўтрашняга дня".*

Луцый Сенэка.

**Прывітанне, дарагі сябра! Калі вы пачалі чытаць гэту рубрыку, значыць, вы мэтанакіраваныя і маеце сур'ёзныя планы на жыццё.**

Калі ў вас шмат спраў і пастаянна ўзнікае пытанне: "Як усё паспець?", хутчэй за ўсё, спробы самаарганізавацца ў вас былі. Але без поспеху.

Магчыма, вы чыталі кнігі па тайм-менеджменце і спрабавалі ўвасобіць прапановы з іх у жыццё. Верагодна, спачатку штосьці атрымлівалася, а пасля усё вярталася на свае месцы.

Вывучэнне тэхнік тайм-менеджмента па кнігах можна параўнаць хіба што з лячэннем цяжкахворага звычайным пластырам. На нейкі час падзейнічае, але далей справа стане.

Кнігі і трэнінгі па тайм-менеджменце добра працуюць толькі тады, калі ў вас ёсць матывацыя. Калі прачнуліся зараджаным, ёсць кураж, тэхніка працуе. Усё атрымліваецца так, як вы задумалі.

Але бываюць дні, звычайна гэта панядзелкі, калі вы прачынаецеся і разумееце, што вам бы яшчэ адзін выхадны, таму што ісці на працу ці вучобу папросту вышэй за вашыя сілы.

Гэта не тая праблема, якую трэба вырашаць сілай волі, угаворваючы сябе: "Ну, паднапружыся, толькі пастарайся – і ўсё атрымаецца". У звычайнага чалавека сілы волі хапае роўна на два дні.

Таму паднапружвацца сэнсу няма. Тут ёсць падвох: чым даўжэй вы будзеце трымацца на грэбені хвалі дзякуючы сіле волі, тым больш пасля будзе адкат. Калі вам хапіла сілы волі на два дні, то праз два тыдні чамусьці ўзнікае вялікі правал.

У такой заканамернасці ёсць прычына. Большасць сваіх штодзённых дзеянняў мы выконваем несвядома. Псіхолагі даўно заўважылі, што амаль 95% дзеянняў людзі выконваюць "на аўтамаце", і толькі 5% кантралююць.

Напрыклад, ранішняя чыстка зубоў адбываецца без непасрэднага мазгавога ўдзелу. Вы ж не задаяце сабе пытанне: "З якіх гэта зубоў пачаць сёння чыстку? З правага боку ці левага?"

Тут хаваецца сіла, якую можна скарыстаць сабе на карысць – сіла звычкі.

Як паказвае практыка, свядома з дапамогай сілы волі можна "ўбудаваць" у сябе не больш за адну звычку ў месяц. Інакш вялікая верагоднасць атрымаць нулявы вынік.

Верагодна, вы ўжо спрабавалі бегаць кожную раніцу. Прынялі рашэнне – выдатна! Устаяце раніцай: "А красоўкі я на лецішчы, пэўна, забыў... Ды і дождж пачынаецца... Ці вецер... Пачну паслязаўтра!" Можа знайсціся любая прычына, якая саб'е вас з толку. Вельмі цяжка ісці супраць звычкі.

Важна навучыцца правільна "ўбудоўваць" у сябе карысныя звычкі і пазбаўляцца ад негатыўных.

Як толькі пераведзяце карыснае дзеянне на ўзровень звычкі, не будзе праблем яго выконваць. Вам будзе дапамагаць падсвядомасць.

Вы пачалі актыўна бегаць, а праз некалькі месяцаў рэгулярных заняткаў раптам будзе не атрымлівацца. Вы заўважыце, як сам арганізм пачне прасіць: "Ідзі і патрэніруйся!"

Жадаю вам набыць і ўмацаваць важныя для вас звычкі!

Марце, жывіце і дзейнічайце!



Юлія ФІЛІПОВІЧ, бізнес-трэнер



КУЛЬТУРА

## Навучэнец вілейскага каледжа перамог з "Танкам"

ВІЛЕЙКА

Навучэнец Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Дзяніс Кароль** заняў першае месца ў абласным этапе рэспубліканскага фестывалю-конкурсу творчасці дзяцей і моладзі "Вянок славы". Прысвечаны гэты конкурс 70-годдзю Перамогі, паведаміла педагог-арганізатар установы **Святлана Мацукевіч**.

На конкурс Дзяніс прадставіў працу "Танк". Удзельнічаў ён у намінацыі "Жывапіс, графічны малюнак" сярод навучэнцаў устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

## Выставу "Дзеці і вайна" паказваюць у Мядзеле

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы працуе выстава "Дзеці і вайна".

Прадстаўлены на ёй стэнды з фотаздымкамі і дакументамі з фонду Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Працягнецца выстава да 23 чэрвеня, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Валянціна Карзяёнак**. Уваход на выставу бясплатны.

## Ад выцінанкі да вышыўкі. У Вілейцы паказваюць працы вучняў і настаўнікаў гімназіі №2

ВІЛЕЙКА

У зале выстаў імя Сілівановіча 26 мая адкрылася выстава выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Свет нашых захапленняў". На ёй паказваюць працы вучняў і настаўнікаў вілейскай гімназіі №2.

Наведнікі могуць пабачыць разнастайныя працы. Тут прадстаўлена мастацкая вышыўка, выцінанка, аплікацыя, жывапіс, графіка, батык, роспіс па шкле, квілінг, бісерапляценне, дэкупаж, арыгамі, вырабы з гліны і прыродных матэрыялаў, папяровай "лазы" і іншае.

Выстава будзе працаваць да 14 чэрвеня.

Аддзел інфармацыі.

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Начальніца аўтавакзала: пін-код просяць увесці самі людзі

МАЛАДЗЕЧНА

**У "Рэгіянальную газету" прыйшоў ліст. У ім чытач расказвае пра выпадак на аўтавакзале, які яго ўзрушыў.**

– Быў на аўтавакзале, – піша чытач. – Мужчына аплачваў праезд карткай, і касірка папрасіла яго назваць пін-код, які набрала на тэрмінале сама. Такім чынам фактычна аплаціла за мужчыну яго карткай. З падобнай сітуацыяй на аўтавакзале сутыкаюся ўжо трэці раз. Першы раз падумаў – можа, збой які-небудзь, але цяпер бачу – такая практыка ў іх нярэдкасць. А між іншым, у чарзе стаяла каля 10 чалавек, і ўсе чулі пін-код.

Чытач пытаецца, чаму работнікі аўтавакзала пытаюцца ў кліентаў пін-код.

Каб адказаць на пытанне чытача, мы прадзяжурылі каля кас аўтавакзала цэлую гадзіну. І ні адзін чалавек не разлічыўся карткай. Даявялося эксперыментаваць і працягваць у акенца касіру ўласную картку.

Калі той падсоўваў тэрмінал у акенца, спыталіся:

**– Вы заўсёды даяце чалавеку тэрмінал, каб той разлічыўся?**

– Так, – адказаў касір. – Я ні разу не пытаўся ў чалавека пін-код. І ведаю, што гэта рабіць забаронена.

– Пра тое, што ў пасажыраў пытаюцца пін-код, я чую ўпершыню, – адказвае начальніца аўтавакзала **Людміла Бастынец**. – Ніхто не звяртаўся са скаргамі.

Але Людміла Бастынец не выключае, што такія выпадкі маглі быць. Магчыма, кажа яна, людзі самі просяць касіраў набраць пін-код.

– Бывае, што чалавек не бачыць лічбы на тэрмінале або яму няручна прасоўваць руку ў акенца, чаму б не дапамагчы чалавеку?

**– Ці з'явіцца нарэшце банкамат на вакзале?**

– Баюся, што ў бліжэйшым будучым не. Мы звярталіся да розных банкаў, і ўсе яны нам адмаўляюць. Гавораць, што гэта нематэгодна. Тым больш, што вакзал працуе не круглыя суткі.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Клапаціцеся, каб ніхто, акрамя вас, не ведаў пін-код ад вашай карткі.

**Наталля ТУР, Галіна СІНІЦА.**



● ПА КРАІНАХ І КАНТЫНЕНТАХ З ЛЫЖКАЙ

## Навучэнцы каледжа навучыліся чаяванню па-англійску

МАЛАДЗЕЧНА

**У межах сумеснага праекта "РГ" і бібліятэкі імя Багдановіча "Падарожжа па краінах з лыжкай" навучэнцы 205-й групы гандлёва-эканамічнага каледжа пазнаёміліся з традыцыямі англійская чаявання.**

Мерапрыемства адбылося 12 мая.

Чаяванне ў Англіі – абавязковая тэма ўсіх падручнікаў па англійскай мове. Узровень ведаў замежнай мовы правяралі адказам на пытанне: "Would you like a cup of tea?" ("Ці жадаеце кубак чаю?"). Калі ў адказ падлеткі радасна ўсклікнулі "Yeees!", то тэст палічылі пройдзеным.

Мы бачылі ў фільмах і серыялах Шэрлака Холмса і доктара Ватсана за ранішнім чаем. У англійскіх раманах абавязкова сустракалі візітную картку Англіі – five-o'clock ("пяць гадзін"). Моцны гарачы пацалунак з водарам бергамоту – такім павінны быць чай, на густ англічан.

Навучэнцы не толькі пазнаёміліся з рознымі відамі чаю, але і пакаштавалі іх разам з прысмакамі. Супрацоўнікі бібліятэкі распавялі пра гісторыю чаю і англійскія традыцыі.

Бібліятэкары **Ларыса Берташ** і **Тацццяна Летунова** распавялі пра традыцыю five-o'clock. Навучэнцы рабілі англійскія бутэрброды, навучыліся правільна заварваць чай і прадэгуставалі розныя яго віды.

### Як англічане заварваюць чай

Спачатку трэба падагрэць сухі чайнік. У яго насыпаюць чай з разліку: 1 чайная лыжка на кубак вады плюс 1 лыжка на чайнік. Чайнік адразу ж заліваюць кіпенем з двух разоў і настойваюць пяць хвілін.

Пакуль настойваюць чай, у моцна разагрэтыя кубкі льюць сагрэтае, але не гатаванае малако на смак. Толькі пасля гэтага ў малако наліваюць чай.

### За чай дзякуем жанчынам

Першы чай, які трапіў у Англію, быў у прыданым партугальскай прынцэсы Катарыны Браганскай, якая стала жонкай караля Карла II. Спачатку чаяванне было прыдворнай цырымоніяй, якая ператварылася ў папулярныя чайныя дамскія клубы.

А ў час праўлення каралевы Вікторыі манарх сама склала правілы чайнага этыкету.

Папулярызацыі чаю былі вельмі рады англійскія медыкі. Небагатыя людзі пілі пераважна слабаалкагольны эль, прычым ад самай раніцы. На здароўі гэта адбівалася не лепшым чынам. Таму калі эль замянілі на чай, то і здароўе не пагаршалі лішкам алкаголю.

А з цягам часу шырокае распаўсюджанне чаю добра адбілася і на эканоміцы. Калі раней вельмі дарагія чайныя прыборы прывозілі з Кітая, то пры шырокай запатрабаванасці англічане пачалі вырабляць іх самі і пастаўляць у іншыя краіны.

### Як часта п'юць чай

У Вялікабрытаніі традыйна п'юць чай шэсць разоў на дзень.

Першы кубак з моцным і падбадзёрлівым напоем у шэсць раніцы суправаджае аўсянку, тосты з джэмам і яешню з беконам.

Ланч – гэта другі сняданак з мяккім чаем. За ім ідзе паўдзённы чай.

Чацверты кубак прымаюць паводле традыцыі five-o'clock. Так называюць перапынак на чай з перакусам, які не адмяняюць нават самыя суровыя начальнікі.

Пасля вячэры каля 21 гадзіны п'юць вечаровы чай. А перад сном англічане аддаюць перавагу фруктоваму чаю.

### Галоўныя правілы чайнага этыкету

Чай наліваюць у малако, а не наадварот.

Кубак трымаюць трыма пальцамі, мезенец і безымянны прыціскаюць да далоні.

Закускі і салодкае падаюць на талерках для дэсертаў.

### Чайны атракцыён

Турысты ў Англіі жадаюць паспрабаваць на сабе чайную цырымонію. Як распавядаюць маладзечанцы, запісацца ў англійскі клуб, які прапануе такую паслугу, трэба за тры месяцы. Уваход дазволены толькі пры выкананні дрэскода. Каб быць у належных уборах, турыстам даявялося браць касцюмы напракат.

Але высілкі вартыя выніку – эмоцыі проста перапаўнялі, наведнікі на самой справе адчулі сябе часткай віктарыянскага чаявання.

**Наталля КУЧАР, бібліятэкарка Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа.**

● У ДАРОЗЕ

# Аўтаспыншчык, які ўбачыў Індыю за 15 долараў

МАЛАДЗЕЧНА

**Аляксандр Сарока, як і я, з Маладзечна, аднак пазнаёміліся мы толькі ў далёкай Грузіі, у адным з паркаў Тбілісі – "Ваке".**

Саша з маленства любіў быць на прыродзе, хадзіць у паходы. Першапачаткова ў тыя, якія арганізоўвалі дарослыя, пасля пачаў арганізоўваць сам. Спачатку вандраваў па Маладзечаншчыне, потым – па Гродзеншчыне.

## Забраў дакументы з універсітэта, каб падарожнічаць

– Падчас такіх паходаў зразумеў, што хачу вандраваць у далёкія краіны і надоўга, – дзеліцца Аляксандр. – Ведаў – гэта будзе каштаваць немалых грошай. Калі вучыўся ў Маладзечанскім політэхнічным каледжы на эканаміста, падпрацоўваў на будоўлі, каб падарожнічаць.

Адзін з групы скончыў каледж з чырвоным дыпломам, завочна паступіў у Беларуска-расійскі ўніверсітэт у Магілёве. Правучыўся там паўгода і забраў дакументы – хацеў вандраваць.

У Маладзечне уладкаваўся працаваць апаратарам на мэблевае прадпрыемства. Так збіраў грошы для будучых падарожжаў.

– Калі з за лета не схадзіў у тры паходы, значыць, лета, лічы, і не было, – перакананы Аляксандр.

## Аляксандр вырашыў: год зарабляю – год вандрую

Першае працяглае падарожжа разам з сябрамі Саша зладзіў на Украіну. Ён адзначае, што яно было затратным. Пасля зноў паўстала пытанне, дзе браць грошы на падарожжа. Пачаў шукаць выйсце.

Мужчына вывучаў, як можна падарожнічаць, харчуючыся ежай з прыроды (ягады, грыбы) і маючы мінімум грошай у кішэні. Аднак на гэты конт было мала інфармацыі.

– Я хацеў мець даведнік, у якім было пра тое, якія цяжкасці ўзнікаюць падчас падарожжа, як іх пераадольваць, – расказвае Аляксандр.



Фота забяспечана Воляй ТРУБАЧ.

Аляксандр Сарока (у цэнтры) падчас аднаго з падарожжаў.

– Знайшоў патрэбную кнігу – гэта быў падручнік для ваенных устаноў. Яе бяру ў кожнае падарожжа. Атлас аўтамабільных дарог – мая спадарожная біблія.

## Каб падарожнічаць, звольніўся з працы

Першае працяглае падарожжа ў тры месяцы было па Беларусі. Для гэтага папярэдне звольніўся з працы.

Галоўная мэта, якую ён пераследаваў, – выжыць у дзікіх умовах. Першапачаткова мужчына ішоў пешшу з Залесся да Смаргоні. Прайшоўшы праз увесь горад, вырашыў адпачыць. І тут жа спыніўся аўтамабіль, які дапамог даехаць. Так зразумеў, што падарожнічаць можна і аўтаспынам.

**Вага заплечніка Сашы 35-40 кілаграмаў. Як тлумачыць падарожнік, у ім адначасова "швейная фабрыка" і "раённая бальніца" – там знаходзяцца ніткі, іголкі, медыкаменты.**

Падчас падарожжаў мужчына харчаваўся дарамі прыроды, аднак вегетарыянцам сябе не лічыў. Спробы адмовіцца ад мяса рабіў не раз.

## Ехаў да дзяўчыны ў Грузію, каб разам паехаць у Індыю

Цяпер Саша ўжо тры гады як вегетарыянец. Ён упэўнены, што чалавек можа быць здаровым, калі не будзе есці мяса, будзе харчавацца толькі садавінай і гароднінай.

Вярнуўшыся дадому, Аляксандр зноў пачаў збіраць грошы на падарожжы. Летам з сябрамі паехаў вандраваць па Грузіі. Там пазнаёміўся з грузінкай Крысцінай. Як ён прызнаецца, разам з гэтай дзяўчынай пачаў вандраваць "па-сапраўднаму".

На наступны год Аляксандр і Крысціна дамовіліся пабачыць на свае вочы Індыю. Саша паехаў у Маладзечна, паўгода збіраў грошы, а летась у студзені рушыў у Грузію да Крысціны, каб разам паглядзець Індыю.

## За 15 долараў можна ўбачыць усю Індыю

– Па Індыі дрэнна падарожнічаць аўтаспынам, – дзеліцца хлопец. – Спыняюцца толькі рыкшы, кіроўцы таксі. Цяжка знайсці месцы, дзе можна спыніць машыну па правабаковым руху. Перамяшчаліся на цягніках – яны вельмі танныя. За 15 долараў можна праехаць краіну з поўначы на поўдзень.

Цяжкасці ўзнікалі толькі з тым, як трапіць унутр цягніка – людзей так многа, што даводзілася сядзець на паліцах для багажу.

**У Індыі танныя начлег і ежа. Начлег – паўтара долара, адзін раз паесці – 25 рупій, менш за долар. Дабаўку да порцыі даюць бясплатна. Аднак важна ўмець дагаварыцца з індусамі.**

– Калі індусы бачаць чалавека з белай скурай, мяркуюць, што ў яго ёсць грошы, цэны павышаюць ў тры, а то і ў пяць разоў, – расказвае Саша.

Падчас гэтага ж падарожжа Саша і Крысціна павандравалі па Кітаі.

– На маёй картачцы, у пераліку на беларускія рублі, было каля 40 тысяч, – расказвае Саша. – Зняць грошы не мог, таму пайшоў у краму набыць вады і хлеба, але на касе мяне не разлічылі. Пануры пацягнуўся шукаць наступную краму. Ахоўніца з крамы дагнала мяне на матаролеры і падарыла мне бутэльку вады.

**Саша адзначае, што ў Кітаі да падарожнікаў ставяцца гасцінна: аднолькава прымаюць і ў пакойчыку метр на метр, і ў дарагім катэджы ў некалькі паверхаў. У краіне ёсць прыкмета: запрасіў госця – значыць запрасіў Бога.**

Сваім прыкладам Саша імкнецца даказаць, што ў свеце больш добрых людзей, чым злых. І гэта не залежыць ад сітуацыі: "свае", "чужыя", "дома", "у чужой краіне" – усе мы ў адной дарозе! А падарожнічаць можна нават без грошай у кішэні.



Воля ТРУБАЧ.
E-mail: ydaroze@mail.ru.

### Парады ад Аляксандра Сарокі для тых, хто збіраецца вандраваць аўтаспынам

1. Назіраць за суразмоўцам, за яго невербальнымі сродкамі (жэстамі, мімікай).
2. Давяраць інтуіцыі.
3. Разумець, што кіроўца нічым табе не абавязаны. Калі ён спыніўся, гэта толькі для кампаніі. Лепшы аўтаспыншчык той, хто слухае кіроўцу, а не размаўляе без перапынку сам.

Плюсы аўтаспына:

1. Можна паглядзець нетыповыя рэчы, лепш пазнаёміцца з пэўнай краінай.

– Уявім сітуацыю, калі чалавек збіраецца павандраваць. Перад гэтым у галаве праносяцца такія думкі: трэба набыць білеты, знайсці гасцініцу, узяць грошы. У выніку накіроўваецца адпачываць па сістэме ўсё ўключана. А ўключана тыповая архітэктура, тыповая ежа, тыповы сусед з другога пад'езда. Зразумець краіну, яе насельнікаў такім чынам нерэальна. Аўтаспын – лепш дазваляе гэта зрабіць, – падсумоўвае Аляксандр.

2. Бюджэтны варыянт падарожжа.

● НАВІНЫ

## "Маладзечна" на апошніх секундах матча прапусціла гол ад Ашмянаў –1:1

МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

Драматычная гульня адбылася ў суботу на гарадскім стадыёне з камандай з Ашмянаў.

Каментуе глядач **Дзмітры Рухлевіч**:

– Маладзечанская каманда гуляла ўпэўнена, але не хапала **Аляксандра Парфёнава** ў нападзенні і **Іллі Ануфрыева** ў цэнтры, што і адбілася на рэалізацыі галявых момантаў.

Першы тайм сустрэчы лідара не выявіў. Лік застаўся 0:0. У другім тайме гульцы Ашмянаў парушаюць правілы, і суддзя прызначае пенальці. Б'е **Сяргей Лавор** – лік 1:0.

Літаральна на апошняй хвіліне сустрэчы суддзя ўказвае, што маладзечанцы парушаюць правілы, і прызначае штрафны ўдар. Лік матча становіцца 1:1.

Такі вынік, відаць, не задаволіў гуляючага трэнера Маладзечна **Сяргея Дараховіча**. Пасля фінальнага свістка ён накіраваўся да суддзі, каб высветліць адносіны.

Сяргей па тэлефоне заўважыў, што ўсё добра:

– Гэта працоўныя моманты, якія вырашыць можна было толькі так. Мы павінны былі перамагчы, але суддзя вырашыў, што нас трэба павучыць. Але прапусціць гол за тры секунды да фінальнага свістка – гэта ганьба.

Наталля ТУР.

## Няўдалы тур для рэгіёна

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Толькі адно ачко набралі тры каманды з рэгіёна ў чацвертым туры чэмпіянату вобласці па футболе. Матчы адбыліся 31 мая.

"Віліі" з Вілейкі ўдалося ў гасцях згуляць унічыю са "СМІаўтатрансам" (Смалявіцкі раён) 1:1.

– Лічу, што нічыя на выездзе – нядрэнны вынік, – кажа прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Аддалі сапернікам ініцыятыву, яны больш валодалі мячом. Наша каманда надзейна гуляла ў абароне, сапернік мала што мог стварыць. А "Вілія" гуляла на контратаках. У нас яшчэ былі два стопрацэнтныя моманты, якія не выкарысталі.

У самым пачатку другога тайма лік адкрылі гаспадары. А на 68-й хвіліне віляйчане зраўнялі лік. Гол забіў **Філіпаў**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Хто павінны падысці ў транспарце: кандуктар да пасажыра ці наадварот?

Цікава, а калі ў аўтобусе няма кандуктара і білеты прадае кіроўца, ён павінны абысці ўсіх пасажыраў? ***Аляксандр.***

Я будаўнік і на рабоце не сяджу, працую. Фізічна. І вось, адпрацаваўшы 8 гадзін, стомлены заходжу ў аўтобус (часцей перапоўнены) і яшчэ павінны хадзіць шукаць кандуктара? Яна на сваім рабочым месцы, хай працуе! ***Дзмітры.***

Цікава... Кандуктару забаронена, паводле тэхнікі бяспекі, прадаваць білеты стоячы без поручня, а пасажыру, значыць, можна, калі рукі занятыя сумкамі ці з дзіцем. ***Дар'я.***

Было і ў мяне такое раз у Маладзечне: зайшоў у аўтобус, сеў, дастаў грошы, сяджу і чакаю. Кандуктар сядзіць і глядзіць на мяне і нуль па фазе. Я сяджу і гляджу на яе. Заходзіць кантора: "Ваш білецік", – "Няма, кандуктар мне яшчэ не прадала". І ў гэты момант яна падлятае: "Вы яго ў мяне не купілі". Ну і далей па схеме: плаціце штраф – не буду. Тут ужо ўмяшаліся бабулі, якія сядзелі і ўсё бачылі: "Ён зайшоў, сеў і адразу дастаў грошы, плаціць збіраўся, а яна не падышла і не пацікавілася, каму трэба білет". Месца хапала, поручні свабодныя былі. Бабкі мяне адбілі, і я са спакойным сумленнем выйшаў там, дзе мне было трэба. ***Sh@m@n.***

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма, баявік "**Анёл-ахоўнік**" (Германія, з 16 год)
5, 6, 7 чэрвеня – у 18:00
10 чэрвеня – у 20:00
11 чэрвеня – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік "**Вяртанне героя**" (ЗША, з 16 год)
5, 6, 7 чэрвеня – у 20:30
10, 11 чэрвеня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Незвычайныя прыгоды Карыка і Вары**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
6, 7 чэрвеня – у 14:00
Цана білета – 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
5, 11 чэрвеня – у 14:00
6 чэрвеня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Дабл трабл**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5 чэрвеня – у 18:00
6 чэрвеня – у 19:30
7 чэрвеня – у 17:00
10 чэрвеня – у 20:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Трылер, баявік "**Звар'яцелы Макс: Дарога лютасці**" (3D, Аўстралія, з 16 год)
5 чэрвеня – у 20:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Захавальнік Месяца**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
6 чэрвеня – у 13:00
7 чэрвеня – у 15:00
10 чэрвеня – у 14:00
Цана білета – 30 000 рублёў

Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (2D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6 чэрвеня – у 17:00
7, 10 чэрвеня – у 19:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Трылер, баявік "**Разлом Сан-Андрэас**" (2D, ЗША, з 16 год)
6 чэрвеня – у 21:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Свет Юрскага перыяду**" (3D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
11 чэрвеня – у 18:30, 21:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | | | 2 | 8 | | |
| 5 | | | 3 | | 1 | | | 4 |
| 2 | | | | 7 | | | | 6 |
| | | 7 | 2 | | | | 3 | 9 |
| | | | | | | | | |
| 4 | 6 | | | | 3 | 1 | | |
| 7 | | | | 2 | | | | 3 |
| 9 | | | 1 | | 5 | | | 7 |
| | | 4 | 8 | | | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛЬШЧЫНЫ



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**На дзіцячым свяце 1 чэрвеня ў Мядзеле юныя мастакі малявалі і на асфальце, і на паперы.**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, 2015)
6 чэрвеня – у 13:00 (цана білета: 30 000 рублёў)
11 чэрвеня – у 16:30 (25 000 рублёў)

Анімацыя "**Захавальнік Месяца**" (3D, Францыя, 2015)
7 чэрвеня – у 12:20
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, 2015)
5 чэрвеня – у 17:00
6 чэрвеня – у 15:20
7 чэрвеня – у 14:20
10 чэрвеня – у 16:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Баявік, трылер "**Звар'яцелы Макс: Дарогі лютасці**" (3D, Аўстралія, 2015, з 16 год)
5 чэрвеня – у 19:00
8 чэрвеня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
6 чэрвеня – у 17:20
7 чэрвеня – у 16:20
9 чэрвеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, баявік "**Разлом Сан-Андрэас**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
6 чэрвеня – у 22:00 (цана білета: 60 000 рублёў)
7 чэрвеня – у 21:00
10 чэрвеня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Дабл трабл**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 чэрвеня – у 21:30
6 чэрвеня – у 20:00
7 чэрвеня – у 19:00
8, 10 чэрвеня – у 21:00
9 чэрвеня – у 21:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, прыгоды "**Свет Юркскага перыяду**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 чэрвеня – у 18:50 і 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Маша і Мядзведзь: Героямі не нараджаюцца. Новыя эпізоды**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
6 чэрвеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Маша і Мядзведзь: Складана быць маленькім**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
7 чэрвеня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Прыгоды "**Гэта твой дзень**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
8 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
9 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**Чароўны лес**" (Францыя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
11 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Прывід**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 чэрвеня – у 18:30 (35 000 рублёў)
6 чэрвеня – у 17:00 і 21:00
7 чэрвеня – у 17:30
9 чэрвеня – у 21:00
10 чэрвеня – у 16:00 (30 000 рублёў)

Меладрама "**Усё, акрамя кахання**" (Аўстралія, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5, 11 чэрвеня – у 21:00
7 чэрвеня – у 19:30
8 чэрвеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 чэрвеня – у 19:00
7, 10 чэрвеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

● ГАРАСКОП

5-11 ЧЭРВЕНЯ



**Авен.** Вы ўсё перажываеце, сумняваецеся, ці правільна зрабілі, ці правільнае рашэнне прынялі. Ад гэтага псуецца настрой. Не перажывайце, будзьце ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, і ўсё атрымаецца.



**Цялец.** Ідзіце сваім шляхам і нічога не бойцеся. Памятайце, што выбар дзеянняў і прыняцце рашэнняў заўсёды застаецца за самім чалавекам.



**Блізняты.** Нікому не навязвайце сябе: тыя, каму вы сапраўды патрэбныя, знойдуць вас.



**Рак.** Вас чакаюць перамены, можна сказаць, што вы самі іх цягнеце ў сваё жыццё. Усе важныя падзеі афармляйце юрыдычна, каб потым не ўзнікала ніякіх праблем.



**Леў.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Набярыцеся сіл і цвёрда скажыце ім "не".



**Дзева.** Добры час для адпачынку, можна і на моры. Па магчымасці, арганізуйце гэта для сябе.



**Шалі.** Вы чамусьці цяпер незадаволеныя дасягнутым, ва ўсім сумняваецеся. Спыніцеся, агледзьцеся, адумайцеся. У вас шмат сіл, добрае здароўе. Сканцэнтруйцеся на чым адным, і вынік не прымусіць сябе чакаць.



**Скарпіён.** Вучыцеся давяраць людзям, не прыніжайце іх. Вядзіце барацьбу са сваімі негатыўнымі рысамі характару, асабліва яўнай перавагай над іншымі.



**Стралец.** Перад вамі расступіцца заслона тайны. Загадкі і пытанні, якія даўно вас турбуюць, знойдуць свае адказы і рашэнні. Толькі ўважліва прыглядайцеся да падзей, што адбываюцца, і своечасова на іх рэагуйце.



**Казярог.** Хтосьці з вашага акружэння ў сваіх роздумах дасць вам падказку ўнікальнага вырашэння даўняй праблемы. Будзьце ўважлівыя.



**Вадалей.** Калі вы хочаце дасягнуць нейкай мэты, строга кіруйцеся наступнымі правіламі: дакладна акрэсліце, чаго вы хочаце дасягнуць, тэрміны, выкажыце намер і прагаварыце ўслых сваё жаданне, усё да дробязяў складзіце ў думках, запішыце на паперы і, нарэшце, адпусціце.



**Рыбы.** Займіцеся знешнім выглядам, творчасцю, домам, абнаўленнем абстаноўкі. Пераканайцеся ў правільнасці выбранага шляху.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991–7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

**6 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 +18 | | +10 +22 | | +14 +26 | | +16 +23 | |
| | 751 | ↓ 1 | 752 | ↖ 4 | 750 | ↑ 5 | 748 | ↙ 1 |
| Вільня | +7 +17 | | +8 +22 | | +14 +26 | | +11 +20 | |
| | 759 | ↓ 1 | 759 | ↑ 5 | 757 | → 3 | 757 | ↙ 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.41
Захад 21.41
Даўжыня дня 17.00

Усход 23.59
Захад 8.51
Квадра 3




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +2,7°C у 1962 годзе
Максімальная тэмпература +29,2 °C у 1988 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,1 мм у 1994 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- 15 лёсаў на 15-м Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне.



### ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Дачнік пытаецца ў суседа:
– А што гэта ў вас учора за свята было? Усе так танцавалі...
Сусед:
– Ды дзед наш, будзь ён няладны, вулей перакуліў!

***

– Трэба агарод паліць, – сувора заяўляе жонка.
– Але ж дождж ліе, як з вядра, – нясмела гаворыць муж.
– Ну дык і што? Плашч накінь!

***

Дзед з бабкай прыходзяць на агарод. Дзед:
– Бабка, я ўскапаю агарод за сем дзён.
Бабка:
– А я за шэсць.
Дзед:
– Ну і капай!

***

Капаю агарод. Гляджу – 50 цэнтаў. Кладу ў кішэню. Капаю далей. Гляджу – зноў 50 цэнтаў. І так разоў дзесяць запар. Няўжо клад?
Не, кішэня дзіравая.



### ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ І ВІЛЕЙЦЫ

## Дзе вы будзеце адпачываць летам?



**Вераніка Несцяронак, выкладчыца, Маладзечна:**
– Сёлета будзем адпачываць у Беларусі. Падабаецца адпачынак каля азёр Баравое і Даравое на Пастаўшчыне. Спадзяюся, што трапім на Нарач. Таксама з мужам наведаем бацькоў.



**Таццяна Адамовіч, студэнтка, Вілейка:**
– У чэрвені здаю сесію, таму буду рыхтавацца, у ліпені – практыка ў бальніцы. Сапраўдны адпачынак пачнецца толькі ў жніўні. Традыцыйна буду адпачываць на Вілейскім вадасховішчы. Вельмі б хацелася з'ездзіць у Пецярбург, як летась, альбо на мора.



**Настасся Карасева, маладая мама, Маладзечна:**
– Разам з сынам паедзем да бацькоў у вёску на Валожыншчыне. Будзем адпачываць на прыродзе. У будучым мару з'ездзіць у Парыж.



**Настасся Чачуліна, студэнтка, Вілейка:**
– Сёлета заканчваю ўніверсітэт, таму адпачываць буду толькі ў ліпені, у жніўні – на працу. За гэты час буду адпачываць сілы пасля вучобы: займацца спортам, загараць, купацца.



**Уладзіслаў Івуць, школьнік, Вілейка:**
– Пакуль не планаваў, чым буду займацца летам і як буду адпачываць. Цяпер бываю на рэчцы, гуляю на вуліцы з сябрамі.



**Дар'я Рагозіна, прадавачка, Вілейка:**
– Паеду на дачу з дачкой, будзем купацца, загараць. Мару з'ездзіць у падарожжа па Еўропе.



**Дар'я Гудзько, менеджар, Маладзечна:**
– Буду працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць, але на выхадныя паеду да бабулі на Нарач. Там і адпачну.

Падрыхтавала
Галіна СІНІЦА.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 23 (1049) 5.06.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 747. Падпісана ў друк у 9.00 4.06.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.